*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 2 (336) 11-25 СТУДЗЕНЯ 1998 г.

## Чаму затрымаўся гэты нумар "Нашага слова"

**Шаноўныя сябры "Нашага слова". Гэты нумар затрымаўся роўна на тыдзень у сувязі з тым, што ў Гарадзенскім абласным упраўленні па друку ўзніклі пытанні да рэдакцыі газеты па некаторых нашых публікацыях і правільнасці афармлення выхадных звестак.**

**Пасля тлумачэння, якія далі рэдактар і кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы, прэтэнзіі да газеты пакуль што знятыя. Газета зноў выходзіць і друкуецца ў Лідзе.**

**Рэдакцыя просіць прабачэння ў вас, шаноўныя нашы чытачы. Такія збоі непазбежны на этапе станаўлення любой газеты, асабліва, калі газета спрабуе быць незалежнай.**

## *Вынікі падпіскі*

Шаноўныя сябры "Нашага слова". Толькі пятага студзеня сталі прыблізна вядомыя вынікі падпіскі на нашую газету. Першы нумар за 1998 год адпраўлены па 548 адрасах. Гэта не так шмат, як хацелася б, але гэта ўжо дае нам магчымасць аплаціць друк і паперу двух нумароў штомесяц.

Акрамя таго мы прадаўжаем пастаўляць газету ў шапкі "Саюздруку" Гарадзенскай вобласці, шапікі ТБМ у Менску і Маладэчне.З першага студзеня мы пачалі пастаўку газеты ў шапікі "Саюздруку" г.Менска.

Вядзецца праца па арганізацыі распаўсюджання газеты па астатняй Беларусі. Маецца вельмі шмат перашкодаў рознага плану, але, будзем спадзявацца, нам іх удасца пераадолець. Ва ўсякім разе мы будзем інфармаваць вас па ўсіх праблемах, якія ў нас узнікаюць.

У студзені мы выйдзем тры разы. У лютым — або тры, або чатыры. У сакавіку — адназначна, чатыры.

Сёння вакол газеты складваецца кола аўтараў, але інфармацыі з месцаў усяроўна не хапае. У пяці нумарах газеты прайшлі матэрыялы: з Менску, Горадні, Ліды, Койданава, Глыбокага, Докшыц, Ашмян, Віцебска, Воршы, Баранавіч, Мастоў, г.п. Красна-сельскі і — на тым ўсё.Дванаццаць населеных пунктаў з цэлай Беларусі. Тым не менш мы спадзяёмся, што дойдзем да ўсіх гарадоў і вёсак і людзі прыйдуць да нас. Новы год пачаўся. Новая праца — таксама.

### Вынікі падпіскі па раёнах

| | |
|---|---|
| ***Берасцейская вобласць*** | |
| Пінск | — 2 |
| Столін | — 3 |
| Ганцавічы | — 2 |
| Кобрын | — 4 |
| Іванава | — 2 |
| Ляхавічы | — 1 |
| Берасце | — 8 |
| Камянец | — 3 |
| **Усяго** | **— 28** |
| ***Віцебская вобласць*** | |
| Віцебск горад | — 15 |
| Чашнікі | — 1 |
| Віцебск РВСП | — 1 |
| Гарадок | — 1 |
| Шаркаўшчына | — 2 |
| Наваполацк | — 4 |
| Талочын | — 1 |
| Полацк | — 3 |
| Ушачы | — 2 |
| Браслаў | — 6 |
| Міёры | — 3 |
| Бешанковічы | — 1 |
| Шуміліна | — 1 |
| Верхнядзвінск | — 8 |
| **Усяго** | **— 49** |
| ***Гомельская вобласць*** | |
| Светлагорск | — 9 |
| Петрыкаў | — 1 |
| Мозыр | — 3 |
| Буда-Кашалёва | — 2 |
| Добруш | — 1 |
| Калінкавічы | — 1 |
| Гомель горад | — 17 |
| Брагін | — 1 |
| Рэчыца | — 3 |
| Чачэрск | — 1 |
| Гомель РВПС | — 1 |
| **Усяго** | **— 40** |
| ***Гарадзенская вобласць*** | |
| Смаргонь | — 4 |
| Ашмяны | — 19 |
| Зэльва | — 1 |
| Слонім | — 10 |
| Наваградак | — 4 |
| Ліда | — 52 |
| Гародня РВПС | — 3 |
| Ваўкавыск | — 4 |
| Гародня горад | — 26 |
| Карэлічы | — 4 |
| Масты | — 5 |
| Воранава | — 1 |
| Бераставіца | — 1 |
| Свіслач | — 3 |
| **Усяго** | **— 137** |
| ***Менская вобласць*** | |
| Жодзіна | — 3 |
| Беразіно | — 1 |
| Маладэчна | — 6 |
| Пухавічы | — 3 |
| Дзяржынск | — 3 |
| Менск РВПС | — 4 |
| Ст.Дарогі | — 1 |
| Валожын | — 4 |
| Слуцк | — 6 |
| Мядзель | — 3 |
| Стоўбцы | — 2 |
| Капыль | — 1 |
| Чэрвень | — 3 |
| Барысаў | — 2 |
| Нясвіж | — 3 |
| Менск горад | — 220 |
| Любань | — 1 |
| **Усяго** | **— 266** |
| ***Магілёўская вобласць*** | |
| Горкі | — 12 |
| Касцюковічы | — 1 |
| Магілёў горад | — 7 |
| Асіповічы | — 4 |
| Клімавічы | — 2 |
| Бабруйск горад | — 2 |
| **Усяго** | **— 28** |

## У Серабранцы створаны блок дэмакратычных сілаў "Хартыя-97"

26 лістапада 1997 года ў Ленінскім раёне г.Менска створаны каардынацыйны камітэт "Хартыі-97", куды ўвайшлі прадстаўнікі БНФ, АГП, БСДГ, партыі Здаровага Сэнсу і іншых дэмакратычных арганізацый. Галоўная мэта гэтага камітэта аб'яднаць тых людзей у раёне, якія падзяляюць ідэалы "Хартыі-97": хочуць імі кіравацца. Адной з першых акцый, ў якой прынялі ўдзел сябры каардынацыйнага камітэта "Хартыі-97", быў пікет супраць забароны газеты "Свабода", які быў арганізаваны на пр.Ракасоўскага 10 снежня з 11 да 12 гадзін на ініцыятіве сяброў БНФ.

Зараз справа ідзе да стварэння рэгіянальнага выдання, якое можа аб'яднаць жыхароў раёна вакол асноўных прынцыпаў Хартыі-97. Варта адзначыць, што ў тэксце Хартыі-97 выказана занепакоенасць станам развіцця беларускай мовы і культуры. Гэта сведчыць пра тое, што ўсе дэмакратычна настроеныя людзі Беларусі разумеюць, што без належнага развіцця беларускай мовы, гісторыі і культуры ў нашай краіне дасягнуць сапраўднага дабрабыту для большасці грамадзян Беларусі проста немагчыма.

**Алег Трусаў, першы намеснік Старшыні Рэспубліканскай Рады ТБМ.**

## *Новая грамадская арганізацыя ў Лідзе*

23 снежня ў Лідзе ўтворана новая грамадская арганізацыя — Альянс "Дэмакратычная Ліда". У альянс увайшлі лідскія арганізацыі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", партыі БНФ, Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада", Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Партыі здаровага сэнсу, Згуртаванне лідскай моладзі імя Гедыміна, харугва "Гедымін" Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Альянс адкрыты для іншых арганізацый і партый дэмакратычнага кірунку.

## У Наваградку стартаваў "Год Міцкевіча"



24 снежня, у дзень нараджэння Адама Міцкевіча узяў старт "Год Міцкевіча", названы так ЮНЭСКА і аднясёны на ўвесь 1998 год, год 200-годдзя са дня нараджэння вялікага беларускага паэта.

Распачалася імпрэза са ўскладання кветак да помніка песьняру ад жыхароў горада і прадстаўнікоў дэлегацыі з Менску, начале з намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь В.Гедройцам.

Удзельнікі наведалі дом-музей паэта, а адкрыццё дзён Міцкевіча адбылося ў актавай зале каледжа. Тут мелі слова дырэктар навукова-асветніцкага цэнтра імя Скарыны Адам Мальдзіс, літаратары К.Цвірка і М.Аўрамчык, старшыня навагрудскага райвыканкама А.Ліс.

Адбылася прэзентацыя кніг "Міцкевіч і Беларусь" і "Прысутнасць былога".

*Юры Карэйва*

## Ворагам Беларушчыны



***Наследванне Янку Купалу***

Ах, як заўжды, панове, зноў вы
нам усю справу псуеце,
ды разматыя размовы
на тую ж тэму ведзіце.

Які зноў кат-русіфікатар
зусюль вас столькі пазганяў,
што супраць нас, ды так заўзята
сцялася гэткіх псоў гайня!

Чаго ж хацець вам? Вы ж па мове
хаўтурны справілі хаўрус!
Спрадвеку так было, панове.
І што? Дзе ж дзеўся беларус?

Ці мо падаўся ў ваўкалакі,
ці зрокся ўласнай галавы,
а мо ў расейцы ці ў палякі
ён запісаўся так, як вы?

Няўжо ён — раб дурной пакоры,
каб самахоць сябе звязці,
пайсці на здрадныя ўгаворы,
як быдлу ў скон, да вас пайсці!

Ці ж ён такі, як вы, галганне,
зацёртае ў імперскі кут,
куды з мазгамі без ваганняў
за бруд улады здаў манкурт!

А той, так спрытным да работы,
той д'ябал-хлус вам за яе
дае якія ўсім "даброты"?
На хлеб з вадою ці стае?

За працу гэткую вар'яцце,
уздасцца вам: не сцерпіць Бог
тых, што, як юда, на распяцце
народ свой злыдням здаць
спамог!

А ці не час вам, ліхадзеі,
спыніць нас "мэнкамі"
страшаць!
Кажу бо вам: не вам, зладзеі,
лёс беларусаў вырашаць!

Не спыніцеся — ліха з вамі!
Заенчыце на цэлы свет,
калі нарэшце станем самі
мы пракладаць да волі след!



## Паседжанне Гарадзенскай абласной рады БНФ "Адраджэньне"

4 студзеня ў Лідзе прайшло паседжанне Гарадзенскай абласной рады БНФ "Адраджэньне". Рада разгледзела адно пытанне: "Аб адносінах да цэнтральных органаў БНФ".

Рада даручыла сябру Сойма, старшыні Карэліцкай раённай рады БНФ "Адраджэньне" Алесю Самцу і старшыні Гарадзенскай абласной рады БНФ "Адраджэньне" Міколе Баўсюку давесці пазіцыі нізавых арганізацый БНФ Гарадзенскай вобласці да кіраўніцтва Фронту.

